

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года
№ 46 (534) 21 ЛІСТАПАДА 2001 г.

## 12 лістапада рашэннем Вышэйшага гаспадарчага суда закрыта гарадзенская незалежная газета "ПАГОНЯ"

Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

**ПАГОНЯ**

Чацвер
9 лістапада 2001 г.
№ 45 (541)
Кошт 130 рублёў

**Цягнікі адпраўляцца з Аульса**

12,13 і 14 лістапада дызельныя цягнікі з Гродна на Брэст і Баранавічы будуць адпраўляцца не з чыгуначнага вакзала, а са станцыі «Аульс». Звязана гэта з капітальным рамонтам пуцей ў межах Гродна. У гэтыя ж дні цягнік «Гродна-Ліда», які адыходзіць з Гродна ў 12.38, будзе курсаваць толькі па маршруце «Ліда-Масты-Ліда». Закрыты для аўтамабільнага праезду будзе таксама і чыгуначны пераезд па Аэрскай шашы.

**За Пашкевіча будзе адказваць Антоненка**

**Ранішнік у «Калізеі»**

У суботу а 14-й гадзіне ў клубе «Калізей-2000» адбудзецца дабрачынны ранішнік-дыскатэка для дзяцей.

Імпрэзу ладзіць гарадзенская арганізацыя шматдзетных мацярок «Крыніца міласэрнасці». Канцэртную праграму бярэ на сябе артыстычная моладзь з вучальні мастацтваў. Для дзяцей са шматдзетных і няпоўных сем'яў і Дзіцячага дома ў «Калізеі» падрыхтоўваюцца песні, танцы, конкурсы і вікторыны з сюрпрызамі ды падарункамі.

Апошні нумар газеты "Пагоня"

### Заява сакратарыяту ТБМ
## "Зачынена беларускамоўная газета"

Таварыства беларускай мовы выказвае занепакоенасць рашэннем Вышэйшага гаспадарчага суда Беларусі ад 12 лістапада аб спыненні дзейнасці незалежнай газеты "Пагоня" і ліквідацыі яе рэдакцыі.

Мы выказваем сваю нязгоду з такім рашэннем, бо зачынена перыядычнае выданне, якое сярод нямногіх паслядоўна трымаецца беларускай мовы, асвятляе на ёй шырокі аспект пытанняў культуры, эканомікі, палітыкі. Па нашым глыбокім перакананні, менавіта гэта і з'явілася галоўнай прычынай вынесенага Судом рашэння.

Таварыства беларускай мовы расцэньвае гэты факт як пераслед беларускай незалежнай прэсы па нацыянальнай і моўнай прыкмеце і прапануе адмяніць гэта несправядлівае, на нашу думку, рашэнне, якое прыніжае гонар кожнага свядомага грамадзяніна нашай краіны.

15 лістапада 2001 г. Сакратарыят.

Беларуская мова-
ТБМ
наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

1. Янка і Надзея Запруднікі (ЗША) - 20$
2. Аляксей Алексяюк (Менск) - 20.370
3. Алена Таболіч (Менск) - 14.550
4. Алесь Фактаровіч (Менск) - 14.550
5. Міхась Ждановіч (Менск) - 17.460
6. Мікола Будны (Менск) - 14.550
7. Лёзненская раён. арг. - 5.000
8. Рада ТБМ, Севастопаль (Украіна) - 5.000
9. Касцюковіч Сяргей (Пінск) - 1.000
10. Сафро Марыя (Масква) - 500
11. Мішчук Георгі (Менск) - 5.000
12. Петруковіч В. (Менск) - 5.000
13. Дзеружынскі Авяр'ян (Менск) - 500
14. Віталь Кажан (ЗША) - 30 $
15. Суп. "Рэфармацыя" (Менск) - 20.000
16. Сазонаў Анатоль (Слуцк) - 1.000
17. Мікола Котаў (Менск) - 3.000
18. Васіль Петруковіч (Менск) - 4.000

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).



| РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ | РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ |
|---|---|
| МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ | МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ |
| УПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ | УПРАВЛЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ |
| 220050, г. Мінск, вул. Кірава, 5. Тэл. 227-41-38 Тэл./факс 227-77-28 | 220050, г. Минск, ул. Кирова, 5. Тел.227-41-38 Тел./факс 227-77-28 |

"08" 11 2001 г. № 6-03/2158/2
на № 529 ад "26" 10. 2001 г.

Старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"
сп. Алегу Трусаву

Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкаму паведамляе, што адкрыццё гімназіі з беларускай мовай навучання і паглыбленнем вывучэннем замежнай мовы планеуцца з 2002/2003 навучальнага года ў будынку СШ № 23 па адрасе: пр-т Ф. Скарыны, 45. Дырэктар гімназіі будзе прызначаны напярэдадні адкрыцця гімназіі.

Начальнік упраўлення М.С. Ціцянкоў.

## Анатолю Вярцінскаму - 70

*Анатолю Вярцінскаму*
(да 70 - годдзя)

*Мне Пушкін любасць рыфмаў даў,*
*Францішкі "Дудка" жыць натхняла,*
*"Сымон музыка" чараваў*
*Аб краі дбаць вучыў Купала.*

*А на Парнас мой паэтычны*
*Штурхнуў і кінуў зычны кліч,*
*І філасофскі, і лірычны,*
*Вярцінскі Анатоль Ільіч.*

*23.08.2001.*
*Эдуард Збароўскі,*
*доктар медыцынскіх навук, прафесар.*



## Вельмі шаноўны спадар Анатоль!

Таварыства беларускай мовы шчыра віншуе Вас, выбітнага паэта, журналіста, крытыка, драматурга і перакладчыка, а таксама вядомага грамадскага дзеяча і палітыка з 70-ымі ўгодкамі ад дня нараджэння.

Мы ганарымся, што жывём у адзін час з таленавітым і сціплым Паэтам. Ваша адметная муза даносіць да чытача самыя тонкія парывы паэтычнай душы, любоў да Бацькаўшчыны, трывогу за яе лёс і надзею на ўваскрэшанне нашага народа ад глухаты і нематы.

Хай і надалей звініць Ваша паэтычнае слова, як сымбаль веры і неўміручасці нашай роднай мовы, нягледзячы ні на якія навалы і здзекі чужых і сваіх незычлівцаў.

Хай беражэ Вас Бог і атуляе сваімі крыламі ад жыццёвай непагадзі.

З павагай,
Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.





# Помнік Ларысы Геніюш ужо ўсталяваны і чакае свайго ўрачыстага адкрыцця

Газета "Наша Слова" № 23 ад 17 чэрвеня 1998 г і № 26 ад 8 ліпеня 1998 г. паведамляла аб тым, што створаны аргкамітэт па ўзвядзенню ў Зэльве помніка Ларысы Геніюш, што помнік адліты ў сілуміне стаіць у кабінеце старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў і чакае толькі таго часу каб мясцовыя ўлады Зэльвы далі дазвол на яго ўзвядзенне. Як Вы ужо здагадаліся, нашыя шаноўныя чытачы ні ўлады Зэльвенскага райвыканкаму, ні ўлады Гарадзенскага аблвыканкаму такога дазволу не далі, хацця кіраўніцтва Саюзу беларускіх пісьменнікаў неаднаразова звярталася з такім хадатайніцтвам. Мабыць пабаяліся, што ад устаноўкі гэтага помніка адбудзецца ў Зэльве землятрус, неба ўпадзе на зямлю, а зямля паляціць у неба, а можна чакаць і горшага, духам, які ізыйдзе ад вялікай беларускай патрыёткі, будзе знішчаны сучасны палітычны рэжым.

Вясной 2001 г. аргкамітэту стала канчаткова зразумелым, што ўсталяваць помнік у Зэльве да змены палітычнай сітуацыі ў краіне не ўдасца. Паўстала пытанне, што рабіць з помнікам. Разглядаліся тры прапановы: Анатоля Белага – помнік паставіць часова на сядзібе музея ў Старых Дарогах, дзе дазвол на яго ўстаноўку не патрэбен; Міхася Скоблы – помнік часова паставіць у памяшканні краязнаўчага музея ў в. Гудзевічы; Вольгі Іпатавай – помнік часова пакінуць у памяшканні Дома літаратара.

Сябры аргкамітэта адхілілі прапанову А. Белага, палічыўшы, што Ларыса Геніюш ніяк не звязана са Старымі Дарогамі, а яе помнік павінен стаяць у Зэльве, дзеля гэтага ён і рабіўся. Па гэтай жа логіцы паставіліся і да Гудзевічаў з дадаткам таго, што помнік належыць да манументальнага мастацтва, а не з'яўляецца камерным творам. Застаўся варыянт захаваць помнік на нейкі час у Доме літаратара.

Улічваючы ўсю неабходнасць усталявання на Беларусі першага помніка рэпрасаваным грамадзянам, кіраўніцтва клуба "Спадчына" на сваім пасяджанні вырашыла, што лепшым увасабленнем усіх палітычна рапрасаваных на Беларусі можа паслужыць вобраз Ларысы Геніюш. Сябар клуба прафесар Аляксей Саламонаў звярнуўся да аўтара помніка скульптара Міхася Інькава з просьбай даць дазвол на аўтарскі паўтор помніка Ларысы Геніюш.

Дазвол быў атрыманы, а праз тры месяцы новы помнік Ларысы Геніюш, выкананы у медзі, быў дастаўлены на сядзібу Анатоля Белага і ў канцы верасня ўсталяваны на пастаменце. Першы помнік, выкананы у сілуміне, застаўся ў Доме Літаратара і чакае свайго зорнага часу, калі нарэшце будзе ўсталяваны на радзіме Вялікай Беларускай Патрыёткі.

Саюз беларускіх пісьменнікаў і кіраўніцтва клуба "Спадчына" прынялі рашэнне ўрачыста адкрыць помнік Ларысы Геніюш у Старых Дарогах 9 снежня бягучага года. У гэты дзень споўніцца 45 гадоў, як Ларыса Геніюш вярнулася на Бацькаўшчыну з сталінскіх лагераў. Улічваючы тое, што мы ставім першы помнік на Беларусі паліткатаржніцы, гэтая дата ў жыцці вялікай змагаркі павінна стаць дамінантай. Саюз беларускіх пісьменнікаў, клуб "Спадчына" запрашаюць усіх, каму дорага творчасць паэтэсы, хто лічыць сябе сябрам, вучнем, прыхільнікам, знаёмым Ларысы Геніюш, прыехаць 9 снежня ў Старыя Дарогі на адкрыццё яе помніка. Няхай кожны праявіць свой акт непарыўнай сувязі з Ларысай Геніюш не ў прыватных размовах, а шчырай і адкрытай грамадзянскай пазіцыяй, ахвяраваннем свайго вольнага часу і стратай хоць на нейкі час цёплага і ўтульнага камфорту. Бо біццё сабе ў грудзі з выказваннем перад сябрамі і знаёмымі сваёй беларускасці стала з'явай на Беларусі ўжо даволі распаўсюджанай, а таму і непрыглядной. А што да тэзы, "што Ларыса Геніюш ніяк не звязана са Старымі Дарогамі", то гэта памылка мясцечковага маштабу, бо вялікая дзеячка нашага Адраджэння кроўна знітавана з ўсёй этнічнай тэрыторыяй Беларусі, а таму і са Старымі Дарогамі. І кожны, хто прыедзе ў гэты горад на адкрыццё яе помніка пераканаецца ў гэтым, калі сам пабачыць і пачуе, як "дзеткі патомныя" будуць чытаць вершы гэтай паэткі.

А ўлады няхай пераканаюцца, што помнік Ларысы Геніюш стаіць ужо некалькі месяцаў, за гэты час землятрусу ды іншых тэхнагенных катастроф на Беларусі не адбылося, палітычны рэжым наадварот яшчэ болей усталяваўся. Можа і яны адумаюцца і ўрэшце дадуць дазвол на ўстаноўку помніка і на радзіме вялікай дачкі Беларусі Ларысы Геніюш у Зэльве.

*По даведкі звяртацца ў Саюз беларускіх пісьменнікаў ці да Анатоля Белага па тэл. 2-35-66-08 у Менску, альбо 8-292-55-2-53 у Старых Дарогах.*




# 400 імёнаў лідскіх літаратараў

15 лістапада ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі адкрылася літаратурная экспазіцыя "Ад лідскіх муроў пачыналі мы крок"

Такая экспазіцыя адкрываецца ў Лідскім музеі ўпершыню за ўсю гісторыю яго існавання і тым больш уражвае, што заняла яна большую частку вялікай залы музея і размясцілася больш, чым на 50 стэндах і 20 вітрынах ды подыюмах. І іншая лічба, якая ўражвае не менш. Экспазіцыя падымае каля 400 імёнаў паэтаў, пісьменнікаў, літаратараў, чыё жыццё так ці інакшай звязана з Лідай. У большасці сваёй гэта людзі якія або нарадзіліся, або жылі ці жывуць у Лідзе і на Лідчыне.

Ад Яна Абрамовіча, старасты лідскага (1593 г.), пры якім быў зацверджаны сучасны герб Ліды, і які напісаў трактат "Погляды ліцьвіна на танную куплю і больш дарагі продаж збожжа" (1595, на польскай мове), Нарбутаў, Адэлі з Устроні – першай беларускамоўнай паэтэсы, да Цёткі і Каруся Каганца, да Валянціна Таўлая і Ніны Тарас – сяброў Саюза пісьменнікаў з даваенний пары, да Дануты Бічэль – сакратара Гарадзенскага абласнога аддзялення СБП, Ежы Путрамента – колішняга сакратара Саюзу польскіх пісьменнікаў і Віктара Праўдзіна – сённяшняга намесніка старшыні Саюзу беларускіх пісьменнікаў.

Наогул з Лідай звязаны лёс больш дзесяць сяброў Саюзу пісьменнікаў: Сяргей Астравец, Уладзімір Корбан, Крысціна Лялько, Уладзімір Клімовіч, Ірына Багдановіч...



Падчас адкрыцця выставы

Гэтая экспазіцыя дазволіла лідскім паэтам у гутарцы з загадчыкам Лідскага гарадскога аддзела культуры сп. Самсонавым, які не прапусціў імпрэзу, ізноў вярнуцца да старой лідскай праблемы: стварэння ў "Доміку Таўлая" Лідскага літаратурнага музея. Сёння ў "Доміку Таўлая" месціцца Лідскі спартыўны камітэт, і раней усё гаворкі ўпіраліся ў пытанне: "А што ў тым музеі выстаўляць?" Сённяшнія 50 стэндаў і 400 імёнаў ставяць кропку на гэтым пытанні. Выстаўляць ёсць што. А ўлічваючы, што Міністэрства культуры паварочваецца тварам да Лідскага замка, то Літаратурны музей у "Доміку Таўлая" арганічна ўпісваецца ў Лідскі гістарычны комплекс.

*Яраслаў Грынькевіч.*

# ПРЫМАЕМ УДЗЕЛ У РАСПРАЦОЎЦЫ СТРАТЭГІІ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ У XXI СТАГОДДЗІ

Шаноўныя сябры!

Работа над распрацоўкай Стратэгіі і развіцця беларускай мовы ў XXI ст. працягваецца. Нагадваем, што праект Стратэгіі быў надрукаваны ў 14 і 15 нумарах "Нашага слова" за 4 і 11 красавіка 2001 г., у шэрагу наступных нумароў з'яўляліся матэрыялы да Стратэгіі, дасланыя нашымі сябрамі.

Сярод новых допісаў, прысвечаных гэтай тэме і моўнай праблеме ў шырокім сэнсе, варта адзначыць грунтоўны артыкул Леаніда Лыча "Выратаванне. Стратэгія афіцыйнага выкарыстання беларускай мовы ў XXI стагоддзі" (ЛіМ, 26 кастрычніка 2001), а таксама бліскучы па распрацоўцы тэмы артыкул Зянона Пазняка "Беларуская мова" ("Народная Воля" №№ 204, 205, "Наша слова", № 44).

У сувязі з тым, што сябры Таварыства беларускай мовы прымалі актыўны ўдзел у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, у прыватнасці, у назіранні за выбарамі, праца над Стратэгіяй аказалася часова запаволенай. Таму вырашана перанесці канчатковыя тэрміны падачы матэрыялаў па абмеркаванні Стратэгіі на канец года (да 1 студзеня 2002 г.).

Шаноўныя сябры Таварыства беларускай мовы! Присылайце нам на Румянцава – 13, а таксама на адрас "Нашага слова", на сайты іншых беларускіх выданняў допісы з вашымі думкамі, меркаваннямі, прапановамі, варыянтамі і папраўкамі да Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі. Чакаем вашыя прапановы.

**Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны.**

**"15" лістапада 2001 г. № 549**

**Старшыні Менскага гарадскога выканаўчага камітэта сп. Паўлаву М. Я.**

Паважаны Міхаіл Якаўлевіч!

У газеце "Наша ніва" № 45 ад 5 лістапада 2001 г. быў змешчаны матэрыял "Шлях да беларускай школы" (адпаведны тэкст прыкладаецца), у якім ідзе гаворка пра прыхаваную дыскрымінацыю беларускамоўных жыхароў Менска па моўнай і адукацыйнай прыкмеце, што з'яўляецца парушэннем артыкула 50 дзейнай Канстытуцыі нашай краіны.

У сувязі з гэтым просім вас выдзеліць адпаведны транспарт для перавозкі на заняткі ў школы беларускамоўных дзяцей.



# Слуцкі збройны чын

***Паважаная рэдакцыя!***

*Прашу Вас надрукаваць у газеце "Наша слова" два маіх артыкулы, якія рыхтаваліся да друку ў Энцыклапедыі гісторыі Беларусі (том 6, частка 1). Пасля больш чым гадовых спрэчак з галоўнай рэдакцыяй, шматлікіх паправак і скарачэнняў у апошні момант галоўная рэдакцыя Беларускай Энцыклапедыі і яе галоўны кансультант па гісторыі М.С. Сташкевіч выраашылі зусім зняць з друку артыкул "Слуцкая брыгада", а ў артыкуле "Слуцкае паўстанне 1920" зняць поўнасцю вызначэнне паўстання як збройнага чыну ў барацьбе за незалежнасць Беларусі, патлумачыўшы яго толькі, як адно з шараговых сялянскіх выступленняў і значна скараціўшы тэкст. Я не пагадзіўся з такой дэфініцыяй Слуцкага збройнага чыну і зняў свой подпіс пад артыкулам. У 6-м томе Энцыклапедыі гісторыі Беларусі захаваўся скарочаны тэкст артыкула "Слуцкі полк", і то толькі таму, што раней быў надрукаваны "Грозаўскі полк".*

*Паколькі поўным ходам ідзе палітыка вяртання ў гісторыі ранейшай савецкай фальсіфікацыі нацыянальнага руху і барацьбы беларусаў за сваю незалежнасць, то застаецца адно: друкаваць болей артыкулаў у незалежнай ад дзяржавы прэсе.*

***З пашанай Анатоль Грыцкевіч.***

*Менск, 11 лістапада 2001 года.*

## Слуцкая брыгада

**Слуцкая брыгада, Слуцкая брыгада стральцоў Беларускай Народнай Рэспублікі,** вайсковае пяхотнае злучэнне, якое створана ў час Слуцкага паўстання 1920 г. і падпарадкоўвалася ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Арганізавана ў лістападзе 1920 г. паводле пастановы 1-га беларускага з'езду Случчыны (14-15.11.1920).

Арганізацыяй Слуцкай брыгады займалася "вайсковая тройка" з сяброў Беларускай Рады Случчыны (п. Я. Жаўрыд, капітан А. Анцыповіч, паручнік Я. Мацэлі). Фармавалася ў горадзе Слуцку і мястэчку Грозаве (пасля ў м. Семежава) з беларускай міліцыі Слуцка і Слуцкага павета (якая была створана ў пачатку 1920 г.), сялян-добраахвотнікаў і жыхароў Слуцка. У канцы лістапада 1920 г. у брыгадзе налічвалася 4 тысячы жаўнераў, а разам з рэзервам – да 10 тысячы чалавек. Узбраенне Слуцкай брыгады было недастатковым: у пачатку Слуцкага збройнага чыну – 500 вінтовак, прынесены жаўнерамі з сабой, 300 карабінаў, з іх 200 пашкоджаных (без прыцэлаў), што перадалі паўстанцам польскія вайсковыя ўлады перад адступленнем польскіх войскаў за дэмаркацыйную лінію.

У снежні 1920 г. брыгада мела ўжо 2 тысячы вінтовак і 10 кулямётаў, з якіх частка былі трафейныя, частка атрыманыя ад Беларускай вайсковай камісіі (БВК). Артылерыя адсутнічала зусім. Камандзірам Слуцкай брыгады Беларуская Рада Случчыны прызначыла капітана А. Анцыповіча. Былі арганізаваны штаб брыгады (начальнік штаба – капітан Антон Барык), аддзелы разведкі і контрразведкі пры ім. Лекар Арсен Паўлюкевіч арганізаваў палявы шпіталь, а Янка Біруковіч – вайсковы суд. Беларуская вайсковая камісія падчас паўстання прыслала ў брыгаду 4 афіцэраў. Асноўную частку афіцэрскага складу складалі беларускія афіцэры – удзельнікі першай сусветнай вайны (у складзе расійскай арміі). Дзейнічала вайсковая школа для падрыхтоўкі камандзіраў (начальнік школы – паручнік Хведар Данілюк). Брыгада складалася з 1-га Слуцкага палка і 2-га Грозаўскага палка са сваімі штабамі. Асобна меліся конны атрад, палкавыя абозы і збраёвая майстэрня. Забеспячэнне прадуктамі харчавання вялося за кошт дабраахвотных паставак сялянамі.



Антон Сокал-Кутылоўскі

У пачатку паўстання палкі Слуцкай брыгады займалі фронт даўжынёй больш за 100 кіламетраў на адлегласці 35-40 кіламетраў на захад ад Слуцка, на мяжы нейтральнай зоны. Савецкія войскі 29.11.1920 г. занялі Слуцк і выйшлі на сваю дэмаркацыйную лінію: мястэчкі Пясочнае – Капыль – Вызна – Леніна. Баявыя дзеянні Слуцкай брыгады пачаліся яшчэ 27 лістапада нападамі на размяшчэнне адзінак 8-й стралковай дывізіі Чырвонай арміі, а потым і на іншыя савецкія часткі, у тым ліку і на адзінкі 17-й стралковай дывізіі. Асабліва моцна паўстанцы атакавалі на ўчастку Капыль – Цімкавічы – Вызна, каля вёсак Садавічы, Дошнава, Быстрыца, Лютавічы, Морач, мястэчак Капыль і Вызна. Часткі 16-й арміі савецкіх войскаў, уведзеныя на тэрыторыю нейтральнай зоны (са згоды польскага боку), 4-7.12.1920 г. пацяснілі падраздзяленні Слуцкай брыгады, аднак разбіць іх не здолелі. 3.12.1920 г., калі камандаванне Слуцкай брыгадай было дастучана штабс-капітану Антону Сокал-Кутылоўскаму, брыгада актывізавала сваю дзейнасць і з баямі прасоўвалася на ўсход да мястэчкаў Семежава і Вызна, якія падчас баёў пераходзілі з рук у рукі. Семежава было занята паўстанцамі ў ноч на 13 снежня і зноў у ноч на 18 снежня, Вызна – у ноч на 19 снежня і зноў днём 19 снежня.

Атрымаўшы значныя падмацаванні, войскі Чырвонай арміі перайшлі ў наступ, адбілі Вызну, а 20 снежня і Семежава. Польскія ўлады дазволілі часткам Чырвонай арміі весці баявыя дзеянні ў нейтральнай зоне і на той тэрыторыі, якая паводле ўмоў прэлімінарнага (папярэдняга) мірнага дагавору ад 12.10.1920 г. лічылася польскай тэрыторыяй. Баі вяліся да 28.12.1920 г. У жаўнераў Слуцкай брыгады не хапала боепрыпасаў, бракавала прадуктаў харчавання. Беларуская Рада Случчыны прыняла рашэнне аб адступленні Слуцкай брыгады на падкантрольную польскім войскам тэрыторыю. 28.12.1920 г. брыгада перайшла за раку Лань, дзе яе жаўнеры і афіцэры былі раззброеныя і пераведзеныя ў лагер для інтэрнаваных спачатку ў мястэчка Сіняўку, потым у Беласток, а пазней у лагер у Дарагулку (каля Хэлму, на р. Заходні Буг). Жаўнеры брыгады былі вызваленыя з польскага лагера толькі ў маі 1921 г. пасля ратыфікацыі Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. Некаторых афіцэраў Слуцкай брыгады польскія ўлады перадалі савецкаму боку, і яны былі расстраляныя. Са складу брыгады адзін батальён (каля 400 чал.) на чале са сваімі афіцэрамі застаўся ў нейтральнай зоне і, падзяліўшыся на групы па 10 чалавек у кожнай, вёў доўгі час баявыя дзеянні партызанскага характару.

*Літаратура: глядзі пры артыкуле Слуцкае паўстанне 1920 г.*

*Анатоль Грыцкевіч.*

## Слуцкае паўстанне

**Слуцкае паўстанне 1920, Слуцкі збройны чын 1920, антыбальшавіцкае і антысавецкае паўстанне,** якое працягвала барацьбу беларускага народа за незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі і якое была накіравана супраць захопу Беларусі савецкай Расіяй. Адначасова беларускае сялянства бараніла сваё сацыяльнае становішча ад аграрнай палітыкі савецкай улады ("ваеннага камунізму"). Асноўнымі чыннікамі Слуцкага збройнага чыну былі шырокія масы беларускага сялянства, свядомыя беларусы-гараджане і беларуская нацыянальная інтэлігенцыя. Да паўстання далучыліся і незадаволеныя бальшавіцкай уладай людзі.

Узначальваў выступленне жыхароў Слуцкага павету Беларускі нацыянальны камітэт у Слуцку. Слуцкае паўстанне адбывалася ў канцы савецка-польскай вайны 1919-1920 гг. Падчас другога наступу польскіх войскаў на Беларусь восенню 1920 г. (у выніку разгрому войскаў Чырвонай арміі пад Варшавай) пасля вулічных баёў часткі польскай 11-й дывізіі пяхоты 11.10.1920 г. зноў занялі Слуцк (раней польскія войскі валодалі горадам ад 10.8.1919 да 15.7.1920 гг) і, адкінуўшы на ўсход часткі 17 стралковай дывізіі Чырвонай арміі, прасунуліся на 25 кіламетраў ад Слуцка, дзе спыніліся праз 6 дзён пасля падпісання дэлегацыямі Польшчы, з аднаго боку, і савецкіх Расіі і Украіны, з другога боку 12.10.1920 перамір'я ў Рызе. Паводле ўмоў перамір'я і прэлімінарнага (папярэдняга) дагавора аб міры ўстанаўлівалася дзяржаўная мяжа паміж Польшчай і Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай Беларусь за 40-45 кіламетраў на захад ад Слуцка. Польскія войскі заставаліся на занятай імі тэрыторыі БССР да заключэння асобнага пагаднення аб іх адводзе за лінію дзяржаўнай мяжы. Пасля іх адводу паміж польскімі войскамі і Чырвонай арміяй утваралася нейтральная зона ў 30 кіламетраў – па 15 кіламетраў ад лініі дзяржаўнай мяжы з кожнага боку, куды ні Чырвоная армія, ні польскія войскі заходзіць не мелі права. Нейтральная зона была ліквідавана толькі пасля падпісання канчатковага мірнага дагавору паміж Польшчай і Расіяй (Беларуская ССР дагавору не падпісвала), умовы якога абмяркоўваліся на перагаворах у Рызе яшчэ больш за 5 месяцаў. Дагавор аб міры быў падпісаны 18.3.1921г.

Пасля падпісання пагаднення аб перамір'і нейтральная зона ўтварылася і ў Слуцкім павеце – гэта значная частка цяперашніх Капыльскага і Салігорскага раёнаў – з савецкага боку, Нясвіжскага і Клецкага раёнаў – з польскага. Беларускі нацыянальны камітэт аднавіў сваю дзейнасць пасля заняцця Слуцка польскімі войскамі. У яго складзе існавалі групы розных палітычных поглядаў, што выклікала рознагалоссі і адмоўна адбілася на далейшым ходзе падзей. У Беларускім нацыянальным камітэце ў Слуцку былі прыхільнікі генерала С. Н. Булак-Балаховіча, прадстаўнікі Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р) і іншыя. Першыя выступалі за саюз з Польшчай у дасягненні беларускай дзяржаўнасці, другія – за поўную незалежнасць і ад Польшчы і ад Расіі. Некаторыя былі нават схільныя да пагаднення з савецкай Расіяй.

Польскія вайсковыя ўлады толькі ў пачатку лістапада 1920 г. перадалі цывільную ўладу ў Слуцку і павеце Беларускаму нацыянальнаму камітэту, пасля таго, як яго склад быў зменены на карысць прыхільнікаў саюзу з Польшчай. Ад кіраўніцтва камітэтам былі адхілены беларускія эсэры, а старшынёй яго абраны А. Паўлюкевіч, прыхільнік саюзу з Польшчай. Ён абапіраўся на паручніка Я. Мацэлі начальніка беларускай міліцыі, створанай у павеце для аховы грамадскага парадку (добраахвотнай самааховы з маладых сялянаў і гараджанаў) колькасцю 500 чалавек (а з рэзервам да 5 тысячаў чалавек).

У гэты ж час у вёсках і валасцях Слуцкага павета дэмакратычным шляхам, без ніякага ціску зверху, былі выбраныя адпаведныя беларускія нацыянальныя камітэты, як органы мясцовай улады, якія замянілі прызначаных польскімі ўладамі войтаў у валасцях і солтысаў у вёсках. Прадстаўнікі Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў на Случчыне выршылі склікаць Беларускі з'езд Случчыны, каб легальна ўстанавіць выбраную дэмакратычным шляхам нацыянальную ўладу. Былі праведзены выбары дэлегатаў на з'езд Случчыны: па 5 прадстаўнікоў ад кожнай валасці і па 1 прадстаўніку ад беларускіх культурна-асветніцкіх гурткоў, што існавалі ў горадзе і вёсках

Першы з'езд Случчыны адбыўся 14-15. 11.1920 г. у вялікай зале дома Э. А. Вайніловіча. На ім 107 дэлегатаў ад горада Слуцка і 15 валасцей Слуцкага павету і гурткоў мелі права вырашаючага голасу і 10 дэлегатаў – права дарадчага голасу. Кіравалі з'ездам беларускія эсэры, якія прадстаўлялі нацыянальна арыентаванае беларускае сялянства. Іх падтрымлівала большасць дэлегатаў. На з'ездзе былі прадстаўленыя і іншыя палітычныя групоўкі. Актыўны ўдзел у рабоце з'езда прымаў П. Я. Жаўрыд, прызначаны Найвышэйшай радай Беларускай Народнай Рэспублікі камісарам на Случчыне. Старшынём з'езду быў абраны В. М. Русак. 14 лістапада з'езд прыняў рэзалюцыю, у якой вітаў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і заявіў "катэгарычны пратэст супроць акупацыі родных зямель чужацкім наездам і супроць самазванай савецкай улады". Асноўным зместам гэтае ўхвалы з'езду быў заклік да стварэння ўзброенай сілы "для адбудавання нашае Бацькаўшчыны".

Беларускі з'езд Случчыны абраў Беларускую раду Случчыны (БРС) у складзе 17 чалавек на чале з У. М. Пракулевічам, даверыў ёй цывільную ўладу ў павеце і даручыў арганізацыю нацыянальнага войска. БРС лічылася часовым урадавым органам аж да ўтварэння выбранага органа на ўсёй Беларусі. Рада складалася з 8 беларускіх эсэраў на чале з У. Пракулеівчам і прадстаўнікоў іншых груповак. З 16 лістапада пачала дзейнічаць БРС, а з 17 лістапада і яе прэзідыюм з 5 чалавек. Першачарговай справай Рады было фармаванне беларускага нацыянальнага войска, для чаго была створана вайсковая тройка з сяброў Рады на чале з П. Жаўрыдам. Яна пачала фармаваць узброеныя падраздзяленні з беларускай міліцыі і добраахвотнікаў. Іншыя сябры Рады ўзначальвалі фінансавую, зямельную, харчовую і юрыдычную камісіі, займаліся арганізацыяй розных цывільных установаў. За некалькі дзён утварыліся аснова беларускага нацыянальнага войска і органы дзяржаўнай улады БНР у Слуцкім павеце.

Беларуская Рада Случчыны 21 лістапада выдала дэкларацыю, у якой абвяшчаліся мэты яе дзейнасці:

"1. Беларусь павiнна быць вольнай, незалежнай Народнай Рэспублікай у яе этнаграфічных межах.

2. Асноўныя Законы Беларускай Народнай Рэспублікі будуць выпрацаваны Беларускім Устаноўчым Соймам, сазваным на аснове агульнага, роўнага, простага, патаемнага і прапарцыянальнага выбарчага права".

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*





Аляксандр Талерчык

# ПАРЭЦКІЯ НАСТАЎНІКІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

13 гадоў Восіп Мацеевіч бяззменна адпрацаваў настаўнікам у Парэччы. З-за хваробы сэрца быў камісаваны і 28 лютага 1935 г. адпраўлены на пенсію. За тое, што ён адпрацаваў настаўнікам 27 гадоў, у тым ліку 14 гадоў пры цары, урад Польшчы прызначыў яму месячную пенсію ў памеры 174 злотых і 20 грошаў. Гэта былі вялікія сродкі, бо за іх можна было купіць добрыя дзве каровы. (Сённяшні настаўнік-пенсіянер за сваю пенсію можа купіць толькі 10 кг мяса). Сваю службовую кватэру пры парэцкай школе ён пакінуў і пераехаў жыць у бацькоўскую хату ў Жыровічы. Маючы добрае матэрыяльнае забяспячэнне і невялікі кавалачак бацькоўскай зямлі, ён увесь вольны час аддае свайму любімаму занятку: садаводству і пчалярству. Асабліва захапіўся акліматызацыяй і развядзеннем вінаграду, які да яго ў нашай мясцовасці ніхто не вырошчваў. Праўда, яшчэ ў 1786 годзе Аляксандр Міхал Сапега ў Дзярэчыне пры ўпарадкаванні садова-паркавай тэрыторыі высадзіў вінаград, але ў нашай мясцовасці ён не прыжыўся. А Кісялю гэта ўдалося: вінаград, з яго лёгкай рукі, пачалі вырошчваць на Слонімшчыне і Берасцейшчыне. Вялікую доследную працу разгарнуў Кісель па развядзенню пчол, працаваў над кнігай па пчалярству. Але не доўга працягваўся мілы яму занятак.

У верасні 1939 г. прыйшлі бальшавікі. Польская акупацыя змянілася савецкай. У Заходняй Беларусі пачалі ўсталёўвацца аднапартыйная адміністрацыйна-камандная сістэма, культ асобы і дыктатарскі сталінскі рэжым. Груба ігнараваліся правы чалавека, вышукваліся "ворагі народа". Заахвочваліся паклёпы і даносы, насаджвалася ўсеагульная падазронасць. Каштоўнасць чалавечага жыцця ўсё больш зніжалася. Любога маглі арыштаваць па самай нязначнай прычыне ці без яе, напрыклад, за неданос ці невыкананне збожжапаставак.

Кісель вельмі перахваляваўся, калі бальшавікі пачалі вывозіць польскую інтэлігенцыю ў Сібір і Казахстан, бо за 21 месяц савецкай улады ў Заходняй Беларусі было рэпрэсавана 87729 чалавек. Але горкая доля выгнанніка яго абмінула. А вось плаціць пенсію яму не сталі. Адзіным сродкам выжывання быў невялічкі прысядзібны участачак бацькавай зямлі, заняты садам. Па савецкаму праву Кісяля аднеслі да аднаасобнікаў. Пачалі душыць непамернымі падаткамі: грашыма, збожжам, воўнаю, сенам, бульбаю, мясам, хаця ніякай жыўнасці, апрача пчол, ён не трымаў. Падаткамі абкладаліся не толькі зямля і маёмасць, а кожны пчаліны вулей і кожнае пладовае дрэва. Прычым гэта афармлялася не як падатак, а як добраахвотнае абавязацельства аднаасобніка. Да канца жыцця ён захоўвае стос такіх абавязацельстваў. Вось адно з іх (бланкі надрукаваны па-беларуску, а запаўненне выканана па-руску ад рукі):

***"Абязацельства № 6797 на пастаўку мяса і шэрсці дзяржаве ў 1940 годзе аднаасобнымі гаспадаркамі.***

*Гр. Кисель Осип Матвеев, села Волька, с/с. Жировичи, р-н Слонимский, область Барановичская, БССР.*

*На падставе пастановы ўрада абавязковых пастаўках мяса і шэрсці дзяржаве, здаць у 1940 г. па цвёрдых дзяржаўных загатавіцельных цэнах 20 кг мяса (у жывой вазе), у тым ліку ў I кв. 2 кг, у II кв. 4 кг, у III кв. 7 кг, у IУ кв. 7 кг. За невыкананне гэтага абавязацельства Вы нясеце ўстаноўленую законам адказнасць. Раённы ўпаўнаважаны Наркомзага СССР".*

Каб мець якія-небудзь сродкі для жыцця і плаціць падаткі, ён з 21 лістапада 1939 г. уладкоўваецца настаўнікам у Жыровіцкую НСШ і працуе да 21 чэрвеня 1941 г. Тут, не здраджваючы сваім традыцыям, на прышкольным участку ён закладае сад з вінаграднікам і вучыць дзетак дагледаць і вырошчваць садовыя дрэвы, а таксама разводзіць пчол.

У часы нямецкай акупацыі мне пашанцавала пабачыць Восіпа Кісяля. Гэта было восенню 1942 года. Беларуская цывільная адміністрацыя г. Слоніма пры падтрымцы нямецкай акупацыйнай улады ў кірмашовы дзень ладзіла ў Слоніме сельскагаспадарчую выставу. Я, дзесяцігадовы хлопчык, з бацькам прывезлі на кірмаш прадаваць жыта і наведалі гэтую выставу. Мы з цікавасцю аглядалі выстаўленых коней бельгійскай пароды, галяндэрскіх кароў з вядзёрнымі вымямі, свіней ангельскай пароды, мерыносных авечак, курэй і гусей. Потым перайшлі да выставы садавода ў і затрымаліся каля аднаго стала, застаўленага рознай садавінай: вялізнымі, як два кулакі, чырвонабокімі яблыкамі грабштынамі, фіялетава-зеленаватымі "цыганкамі", грушамі-бэрамі, сапяжанкамі ды "паннамі". Тут ляжалі фіялетавыя і зялёныя гронкі незнаёмых мне ягад, як потым высветлілася, вінаграду. Бацька ветліва павітаўся з гаспадаром гэтай выставы. Мне растлумачыў, што ўсё гэта вырошчвае сам Восіп Кісель, былы парэцкі настаўнік. Яшчэ да першай сусветнай вайны ў яго вучыліся мая маці і бацька з братамі. Заўважыўшы, што я вельмі пільна прыглядаюся да незнаёмага мне вінаграду, Кісель растлумачыў, што вінаград расце ў больш цёплых краінах, але ён, Кісель, пачаў разводзіць яго ў сябе ў Жыровічах. Дастаў з-пад лаўкі з кошыка некалькі гронкаў і даў пакаштаваць мне і бацьку. Я паклаў у рот фіялетавыя ягады, яны здаліся смачнымі, але кіславата-салодкімі. Каштаваць зялёныя я адмовіўся, бо падумаў, што яны няспелыя і нясмачныя. Але гаспадар сказаў, што гэта такі гатунак зялёнага вінаграду і ён смачнейшы за той, што я каштаваў. Я з недаверам раскусіў некалькі зялёных ягадак і быў вельмі ўраджаны іх прыемным, салодкім смакам. Восіп Мацеевіч доўга распытваў пра лёс яму знаёмых парэцкіх сялян, расказваў смешныя здарэнні, якія з імі адбываліся. Ён запрасіў бацьку наведаць Жыровічы і абяцаў даць саджанцаў вінаграду, парэчак і чорных рабін. Я некалькі разоў прасіў бацьку з'ездзіць да Кісяля па вінаградныя саджанцы, але гаспадарчыя справы ды той ваенны вэрхал, які потым пачаўся на Слонімшчыне, не дазволілі тое зрабіць.

Пасля выгнання немцаў і новага прыходу бальшавікоў ці "другіх саветаў" у 1944 годзе Восіп Кісель працягвае працаваць настаўнікам у Жыровіцкай НСШ. Там песціў свой прышкольны сад. Асаблівую ўвагу ўдзяляў вывядзенню марозаўстойлівых сартоў вінаграду і распаўсюджванню яго на Слонімшчыне і Берасцейшчыне. Працаваў над кнігаю "Прышкольны зямельны ўчастак для сярэдняй школы". У ёй выклаў свае арыгінальныя погляды на ролю настаўніка ў дзяржаве: "Які настаўнік – такая і школа, такія дзеці і грамадзяне краіны, такая і дзяржава". Адначасова заклікаў: "Саджайце сады! Што можа быць прыгажэй квітнеючага вясною сада, а яшчэ мілей, калі ў канцы лета галінкі фруктовых дрэў гнуцца пад цяжарам спелых пладоў?". Далей даваў парады, як, калі і што трэба рабіць, каб сад прынёсіў людзям асалоду.

Ён прадаўжаў займацца пчалярствам. У той час у аўтабіяграфіі пісаў:

***"Имею 9 разоренных войной пчелиных семей и провожу опыты по пчеловодству. Приготовил для отпечатанья материал по пчеловодству, но не могу установить связи с органами пчеловодства, чтобы отпечатать мой труд: с институтом пчеловодства и редакцией журнала по пчеловодству. Другого хозяйства я не имею, не имею коровы и поросенка".***

Але яго, уладальніка 40 садовых сотак, які не меў ніякай жыўнасці, і "другія саветы" пачалі душыць сваімі недарэчнымі планамі, пастаўкамі і падаткамі. Толькі прайшоў месяц пасля выгнання немцаў, а Кісель ў жніўні 1944 года атрымаў пад распіску ад райупаўнаважанага Наркамата Нарыхтовак Залажука наступны дакумент (ужо толькі на рускай мове):

*"Обязательство № 6 на сдачу зерна и картофеля из урожая 1943 года в фонд Красной Армии Гр. Кисель Осип Матвеевич.*

*На основании закона о сдаче государству зерна и картофеля урожая 1943 г. (дарэчы, даўно з'едзенага яшчэ пры немцах –А.Т.) в фонд Красной Армии, для Вас устанавливается обязательство по сдаче зерна и картофеля в фонд Красной Армии из урожая 1943 г. по государственным ценам, исчисленным из следующего расчета:*

*Уборочная площадь 1 га, норма сдачи с 1 га уборочной площади зерна 40 кг/га, картофеля 150 кг/га.*

*Подлежит сдаче зерна 40 кг, картофеля 150 кг, в том числе па месяцам зерна в сентябре 16 кг, октябре 12 кг, ноябре 12 кг; картофеля в сентябре 45 кг, октябре 105 кг. За невыполнение настоящих обязательств Вы несете ответственность указаную законом об обязательных поставках зерна и картофеля государству".*

Не паспеў Кісель купіць жыта, якога не сеяў у сваім садзе, як тут жа і пад тым жа нумарам прыносяць пад распіску новае

***"Обязательство № 6 на поставку государству продуктов животноводства в 1944 г.***

*Кисель Осип Матвеевич, село Жировицы.*

*На основании постановления Правительства Вы обязаны сдать государству в 1944 г. по государственным закупочнымм ценам (лічыце, амаль бясплатна –А. Т.) мяса в живом весе 20 кг, ... сена 6 кг. Сдача продуктов должна быть произведена в следующие сроки: мяса в III кв. 12 кг, в IVкв. 8 кг; сена в III кв. 6 кг.*

*За невыполнение обязательств в указанные сроки Вы несете установленную законом ответственность. Уполномоченный НКЗага СССР (подпись)".*

І шукае садавод Восіп Мацеевіч грошы, каб купіць збожжа, мяса, малако і сена ды разлічыцца з дзяржаваю. Калі ён не выканае быццам бы даных дзяржаве абавязацельстваў, кара будзе немінучая і жорсткая, магчыма да высылкі ў далёкую Сібір.

У 1945 годзе нарыхтоўчыя органы трошкі папрапуляюць сябе і прапануюць узяць абавязацельствы і дадаткова здаць зерне не з 1 га, як летась, а толькі з наяўных 30 сотак:

***"Обязательство № 36а на сдачу зерна из урожая 1945 года единоличным крестьянским хозяйством в хлебный фонд Красной Армии.***

*Гр. Кисель Осип Матвеевич, с. Волька Жировичского с/с.*

*На основании закона о создании хлебного фонда Красной Армии, для Вашего хозяйства устанавливается обязательство на сдачу зерна в хлебный фонд Красной Армии из урожая 1945 г. по государственным заготовительным ценам, исчисленное из следующего расчёта:*

*Пашня по которой исчисляются обязательства поставки зерна государству из урожая 1945 г. 0,3 га. Размер сдачи зерна в фонд Красной Армии с 1 га 10 кг. Подлежит сдаче зерна в фонд Красной Армии 3 кг, в том числе в августе 0,75 кг, сентябре 1,5 кг, октябре 0,75 кг.*

*Выполнение настоящего обязательства является первоочередной обязанностью каждого единоличного хозяйства и должно быть произведено из первых обмолотов, причем намеренное невыполнение обязательства будет караться законом.*

*Райуполномоченный НКЗаг СССР. 25 августа 1945 г.".*

Калі за тыя пяць дзён, якія адводзілася ад выпіскі абавязацельства і да першага тэрміну здачы дзяржаве 750 гр. зерня, ён не ўкладзецца, то, як злосны невыканаўца збожжапаставак, можа апынуцца далёка ад дому. Ці будзе канец гэтым пагрозам?

А вось яму даводзяць ***"План сельскохозяйственных работ на 1948 г".***

*"Гр. Кисель И. М., д. Жировичи. Жировичский Сельский Совет извещает Вас, что на основании постановления правительства Вашему хозяйству установлен план сельскохозяйственных работ на 1948 г. в гектарах:*

*1. Посеять яровых культур весной 1948 г. всего 0,29 га в т.ч.*

*- яровых, зерновых и зернобобовых, включая люпин на семена 0,19 га,*

*- картофеля 0,8 га, овощей 0,2 га.*

*2. Посеять озимых культур под урожай 1949 г. 0,19 га.*

*Председатель с/совета (подпись). 20 марта 1948 г."*

Падсумаваўшы лічбы, былы вясковы настаўнік, пэўна, падумаў, якое дурное гэтае савецкае дзяржаўнае планаванне. На сваіх 30 сотках ён павінен засеяць 1,19 га: 19 сотак зернебабовых, 80 сотак бульбы і 20 сотак гародніны. А такія "планы" маглі быць выраша́льнымі для лёсу людзей, бо за невыкананне іх зноў пагражалі страшнай карай-высылкай за межы Бацькаўшчыны, як ворага планавай гаспадаркі. Восіпу Мацеевічу і тут пашанцавала. Пагалоска аб ім, як аб цудоўнейшым садоўніку і пчаляру, разнеслася далёка за межы Слонімшчыны. Менавіта пад яго досведчанасць і прафесіяналізм у Жыровічах адкрылі апорны пункт Беларускай садавінна-агароднінай доследнай станцыі і 22 чэрвеня 1946 года яго прызначылі загадчыкам гэтага пункта. Слава аб яго дасягненнях дайшла нават да верхніх эшалонаў улады. Вось якую ацэнку яго працы даў Старшыня Прэзідыюму Вярхоўнага Савета БССР Н. Наталевіч у лісце ад 29 ліпеня 1946 г.

*"Уважаемый Иосиф Матвеевич! ... Если бы мы имели в каждой области хотя бы по одному человеку (я имею ввиду энтузиастов-людей науки вроде Вас мы бы дело виноградорства, садоводства и пчеловодства при огромной поддержке колхозных масс двинули бы вперед и очень быстро.*

*Очень просил бы Вас познакомить меня с Вашим планом работ на будущее и, в частности, с планом работ по выращиванию винограда в Белоруссии.*

*С уважением к Вам Н. Наталевич".*

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*





Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Сейлавіцкая васьмігодка стала дзесяцігодкай.

Дзяцей было многа. З 1967 года пайшлі паралельныя класы. У 1972-1973 навучальным годзе ў Сейлавічах было каля 16 клас-камплектаў. Заняткі ішлі ў дзве змены. Далей паступова колькасць клас-камплектаў ізноў звялася да дзесяці.

За сорак гадоў толькі з дзясятага класа выпушчана каля тысячы чалавек. Каля семсот чалавек пакінула школу пасля 8-9 класаў. Пасля школы большасць выпускнікоў рознымі спосабамі пакінулі Сейлавічы, Андрушы, Кунасу. Асабліва катастрафічны характар насіў ад'езд моладзі з засценка. Сёння ў выніку гэтага засценак з горыччу называюць "Чарнобыльскай зонай". Тут практычна не засталося карэннай шляхочай моладзі.

За сорак гадоў выпускнікі Сейлавіцкай школы сталі спецыялістамі рознага ўзроўню і рознага профілю. У вельмі вялікія начальнікі сейлаўцы ніколі не выбіваліся. Каля дзесятка афіцэраў, некалькі старшынь калгасаў, аграномы, заатэхнікі, брыгадзіры, настаўнікі, дактары і медсёстры, працаўнікі культуры і адукацыі, рабочыя і калгаснікі. Два выпускнікі Сейлавіцкай СШ сталі сябрамі Саюза беларускіх пісьменнікаў (Кастусь Жук і Станіслаў Суднік), ёсць сябры Саюза журналістаў (Тамара Пральгуль) і Беларускай асацыяцыі журналістаў і г. д.

У канцы 70-х -- пачатку 80-х гадоў школа была дабудаваная. Павялічылася колькасць класных пакояў, пабудавалі новую спартовую залу, адчынілі сталоўку.

Асобна трэба сказаць пра сейлавіцкіх настаўнікаў. У 60-я -- 70-я гады каля паловы сейлавіцкіх настаўнікаў былі тутэйшыя, калі не сейлаўцы, то з Андрушоў, Затур'і, Кунасы ці, скажам, Амлынцаў. Традыцыйна прыезджымі былі дырэктары. Сейлаўцаў, як вядома, у начальства не пускалі. І зноў жа каля паловы настаўнікаў былі мужчыны блізка 40-гадовага ўзросту. Таму трэба сказаць, што вялікіх праблемаў з дысцыплінай у школе не было. Настаўнікі ў большасці сваёй памяталі польскую школу з яе дысцыплінай і "лапамі", гэта калі парушальнікаў білі па далоні вялікай лінейкай. Таму нас настаўнікі, хоць і не білі, але трымалі класы цвёрда.

Узровень ведаў мы атрымоўвалі нічым не горшы за іншыя вясковыя школы, хоць з гарадскімі на розных алімпіядах змагацца было цяжкавата. Былі ў нашай вучобе і казусы. Так Вера Антонаўна Гвардзіян на працягу гадоў 20-25 выкладала нямецкую мову. І ўсе гэтыя годы яна вучыла сейлаўцаў саксонскаму дыялекту. Сейлаўцам то было ўсяроўна, але калі ў 9-м класе прыйшла новая настаўніца пасля інстытута, то аказалася, што нашая саксонская і яе хохдойч для многіх проста розныя мовы. Як магла, яна нас перавучвала, ды не так усё проста аказалася. Я пасля гэтага займаў 1-2 месцы на раённых алімпіядах, яшчэ 8 ці 9 гадоў вучыў нямецкую мову ў вайсковай навучальні і акадэміі, атрымаў дыплом вайсковага перакладчыка, а ад саксонскіх умляўтаў так і не пазбавіўся. Хлопцы ж у большасць сваёй махнулі на ўвесь гэты дойч, і хох, і не хох, рукой, адпрацавалі ў фонд экзамену па нямецкай мове на нарыхтоўцы торфабрыкету для школы і забыліся яе назаўсёды.

Я не адсачу лёсы ўсіх выпускнікоў. Хай гэта застанецца для школьных краязнаўцаў.

У цэлым жа, гаворачы пра школу, магу сказаць, што на ўзроўні падсвядомасці ў большасці выпускнікоў засталіся светлыя ўспаміны пра школьныя гады і пачуццё ўдзячнасці і школе, і настаўнікам.

Недзе ў 1961-м ці 1962-м гадах сама сабой знікла мяжа паміж засценкам і вёскай. У выніку зсялення з хутароў былі заселены ўсе разрывы і пустыя плямы ў вёсцы і засценку. Абодва населеныя пункты зліліся фактычна, а затым і юрыдычна Сейлавічы былі трансфармаваныя ў адзін населены пункт: вёску Сейлавічы. У гэты ж час тып населенага пункта засценак знікае з картаў і адміністрацыйнай дакументацыі. Усе засценкі пачынаюць іменавацца вёскамі. Сейлаўцы ўнутры з гэтым не пагадзіліся і называлі часткі новага населенага пункта вёскай, засценкам і пасёлкамі, а ўвесь населены пункт, як было ўжо сказана, сялом.

Не паспелі разабрацца з хутарамі, як пачалася глабальная меліярацыя. Ішла яна ўсе 60-я гады. У выніку ўсе сейлавіцкія балоты перасталі існаваць. Вомшар "дабівалі" яшчэ ў 70-я. Што і хто выйграў ад той меліярацыі? Да 3083 га калгасных зямель дадалося яшчэ каля 266 га, што складае каля 8%, але ў выніку гэтага прапалі жураўлі, чаплі, кнігаўкі, кулікі, бакасы. Прапала рыба. Прапалі выдры, якія жылі ў Тур'і. Пад нож пайшлі буіны, журавіны. У Селавічах засталася адна сям'я буслоў.

Меліярацыя разам за тым дала сведчанні, што некалі сейлавіцкае наваколле выглядала некалькі не так, як у апошняе стагоддзе. Так у балотах былі знойдзены дубы, якія ніколі ў балотах не растуць. Дубы прайшлі працэс марэння і выдатна захаваліся. З іх у Сейлавічах потым рабілі розныя рэчы. Знаходка гэтых дубоў хутчэй за ўсё пацвярджае праўдзівасць старой легенды пра існаванне іншай дорогі на Юшавічы праз Аселіцу, Касцянева, Брод, Кулік, Вомшар. Але ў 20-м стагоддзі ніякага знаку гэтай дарогі ўжо не было.

У сярэдзіне 60-х пусцілі аўтобус. Спачатку аўтобус хадзіў з Нясвіжа да Сейлавіч. Потым -- да Затур'і. Затым -- да Бузуноў, Андрушоў, Кунасы. У лепшыя часы праз Сейлавічы праходзіла пяць рэйсаў, што было вельмі зручна, каб дабрацца да Нясвіжа, бо ўвесь іншы свет для сейлаўцаў пачынаўся за Нясвіжам. Сейлаўцу было мала спраў у нейкім там Капылі ці Стоўбцах. Касцёл, кірмаш, улада -- усё было ў Нясвіжы.

Развіццё транспарту запатрабавала паляпшэння дарог. Ад польскіх часоў наскрозь па Сейлавічах ляжаў брук. Ужо ў 60-я яго, нават, адзін раз рамантавалі. Работы па машчэнню бруку ў Сейлавічах называлі *шарваркам*. Палякі ўмелі працаваць з беларусамі, таму ніхто ніякай талакі не арганізоўваў, на кожны двор быў адмераны кавалак вуліцы і выдзелены час на яго забрукоўку. Улада пакінула сабе ганаровае права прыёмкі гатовай работы. Брук быў добрым тым, што на ім ніколі не было гразі, але калі па бруку ехалі на возе з акованымі жалезам коламі, то ехаць можна было толькі з хуткасцю конскага кроку. Варта было пагнаць каня бягом, як воз пачынаў ляскатаць на ўсю вёску, а ў фурмана аж "зубы з рота выскаквалі". У канцы 70-х ці пачатку 80-х брук заасфальтавалі. Потым паклалі асфальт да Нясвіжа, Потым да Кунасы і Затур'і.

У 60-я гады ішла трансфармацыя аплаты працы калгаснікаў ад працаднёў да грашова-натуральнай. Неад'емным атрыбутам жыцця амаль кожнай сям'і таго часу былі вучнёўскія сшыткі з палачкамі, якімі народ, мабыць па ўсёй краіне, лічыў свае працадні.

Лічылі, пералічвалі, збіваліся, мыляліся, сварыліся і ўсё за пустыя палачкі, бо ўвесь гадавы заробак змяшчаўся, як правіла, на адным возе. Заробак давалі раз у год, звычайна пасля справаздачнага сходу, але не абавязкова. Значнай палёгкай з'явілася ўвядзенне авансу, а пасля і памесячнай грашовай аплаты. І хоць заробак калгасніка "сягаў" аж да 30 рублёў, жыць стала лягчэй.

11 траўня 1956 года ў СССР былі ўведзены пенсіі для рабочых і службоўцаў. Недзе гадоў праз дзесяць пенсіі пачалі плаціць і калгаснікам. Як мне памятаецца, спачатку плацілі рублёў восем, пазней крышку дабавілі.

Сейлавіцкі касцёл ад вайны быў без ксендза, але знаходзіўся пад наглядам людзей. Недзе ў сярэдзіне 60-х гадоў бальшавіцкая бязбожнасць выйшла на новы віток. З касцёла вырашылі зрабіць спачатку збожжасклад, а пасля і зусім -- склад угнаенняў. Абразы з касцёла людзі разабралі па хатах. У хатах аказаліся і касцельныя кнігі. Па іх пры выхадзе на пенсію ўстанаўлівалі дакладныя гады многія католікі Сейлавіцкай парафіі, якія мянялі свае даты нараджэння ў вайну, каб не трапіць у Германію. І зараз гэтыя кнігі недзе ёсць.

Да гісторыі касцёла, калі ён быў пад складам, трэба дапісаць, што на першых парах гэта давала бальшавікам значную выгаду. Шляхта напачатку лічыла як бы непрыстойным красці з гэтага склада. Потым, як кажуць, абабіліся і пачалі красці і з касцёла.

Касцёл вернуты вернікам, адрамантаваны і асвечаны ў пачатку 90-х гадоў. На асвячэнні акрамя католікаў былі ледзь не ўсе сейлавіцкія праваслаўныя. Многія з іх пасля асвячэння хадзілі і на службу. Дарэчы роля праваслаўных у аднаўленні касцёла гэтым не абмяжоўваецца. Калі пачаўся рамонт, то шляхта як заўжды трохі пасварылася паміж сабой. Рамонт спыніўся. Тады падышлі прадстаўнікі праваслаўных і сказалі: "Або вы рамантуеце касцел, або мы забяром яго пад царкву." Такая пастаноўка пытання хуценька памірыла шляхту, і касцёл быў адрамантаваны. Значныя сродкі выдзеліў калгас "Світанне".

У 1995 годзе была адрамантаваная і Кунаская царква. Ізноў значныя сродкі выдзеліў калгас. Асвячэнне царквы пасля рамонту правёў мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт. Да асаблівасцяў гэтага свята трэба аднесці тое, што на гэты раз пагалоўна ўсе католікі былі на асвячэнні праваслаўнай царквы. Па засценку быў перададзены стражайшы "грамадскі загад": "Каб усе былі". Таму праваслаўны мог пайсці ці не пайсці, а католікі мусілі быць. Так на гэтых землях суіснуюць дзве галіны хрысціянства. І каб не ксяндзы з папамі, ды не каляндар, то ўжо ізноў бы гэтыя рэлігіі зліліся ў адну.

З 1962 па 1968 год калгасам кіраваў Чудзянкоў Мікалай Сямёнавіч. Да 1977 года -- Апанасік Антон Антонавіч. За ім -- Паўлаў, Карчміт, Булыга...

Росквіт Сейлавіч наступіў у 80-я гады калі старшынём калгасу быў прызначаны Карчміт, сённяшні дырэктар аграфірмы "Сноў". Былі пабудаваны новыя адміністрацыйныя будынкі, дабудавана школа, пабудаваны цэлы мікраараён катэджаў.

Не гледзячы на пастаянны ад'езд моладзі, на 1 студзеня 1987 года на тэрыторыі Сейлавіцкага сельсавета жыло: у в. Кунаса - 187 чалавек (70 двароў), у в. Андрушы - 349 чалавек (136 двароў), у в. Сейлавічы - 766 чалавек (258 двароў).

Сённяшнія Сейлавічы -- гэта цэнтр сельсавета, цэнтр калгаса "Світанне", вёска, дзе большасць карэннага насельніцтва глыбокія пенсіянеры.

У 2000 годзе ў калгасе "Світанне" было зямель агульнай плошчай 3528 га, у т. л.

сельгасземлі-3322 га;
ворыва-2647 га;
сенажаці-280 га;
пашы-395 га.

Буйной рагатай жывёлы 2152 галавы, у т. л. кароў - 810; свіней - 1789.

Трактароў - 44;
аўтамабіляў - 27;
сельгасмашын - 107;
камбайнаў - 13, у т. л. "Дон - 1500" - 5.

У калгас на працу ходзіць 338 чалавек, з іх значная частка - пенсіянеры.

У Сейлавіцкім сельсавеце функцыянуе ўся патрэбная для жыцця інфраструктура: крамы (5 дзяржаўных і 1 прыватная, гаспадары Рымшы, гэта першая прыватная вясковая крама ў Нясвіжскім раёне), два клубы, дзве бібліятэкі, дзве школы, амбулаторыя (колішняя Вінклераўская бальніца перанесеная ў вёску ў новы будынак), ёсць дзіцячы садок, сталоўка, пошта, ашчадная каса, лазня. Стаіць недабудаваны дом культуры. Насельніцтва значна змянілася. Вельмі шмат прыезджых. Традыцыі і карэнны ўклад жыцця Сейлавіч памалу адходзяць, і таму я палічыў сваім абавязкам падаць той цывілізацыйны зрэз, у якім я вырас і які мне больш-менш вядомы.

Безумоўна, што многія аспекты гісторыі Сейлавіч пададзены фрагментарна і не цалкам, але ўжо ж, як выйшлася.

### Сейлавіцкая шляхта

Сейлавіцкая шляхта паводле свайго месца ў грамадстве, побыту і традыцый належыць да засцянковай, якая сфармавалася з ваколічнай і ардынацкай шляхты. Розніца паміж гэтымі катэгорыямі была невялікая. Ваколічная шляхта мела або векавечна сваю зямлю, або нададзеную Вялікім князем. Яна абавязана была ісці на вайну толькі па слову Вялікага князя. Ардынацкая шляхта мела зямлю нададзеную князем Радзівілам і павінна была ісці на вайну па слову Радзівіла. Але паколькі Радзівілы займалі выключна высокія пасады, а войны патрабавалі напружвання ўсіх сілаў, то на вайну, як правіла ішлі ўсе, таму розніца паміж шляхтаю ваколічнай і ардынацкай хутка сцерлася, забылася і пра гэта зараз ужо ніхто не ведае.

Сама па сабе сейлавіцкая шляхта ўся мешаная-перамешаная са шляхтаю іншых блізкіх засценкаў, але і да гэтага часу памятаюць, хто быў карэнны сейлавец, а хто ў нейкі час трапіў у Сейлавічы. Большасць сейлавіцкая шляхты паходзіць з баяраў, са старых ліцьвінскіх баярскіх паселішчаў. Гэтых баярскіх паселішчаў было шмат. На сёння ў вельмі многіх раёнах Беларусі стаяць вёскі з назвай Баяры, у тым ліку і ў Нясвіжскім, Лідскім, Маладзечанскім раёнах. Наогул то назва гэтых вёсак павінна гучаць не *Бая'ры*, а *Баяры'*, бо назва паходзіць а формы множнага ліку слова *бая'р*, якое ў сучаснай літаратуры трансфармавалася ў *вая'р*.

Ліцьвінскія баяры ўпершыню названы шляхтай у Гарадзельскім прывілеі 1413 года. Разам з тым гэта не абазначала аўтаматычнага пераходу баяраў у шляхту. Стан баяраў на Беларусі існаваў да пачатку 19-га стагоддзя паралельна са станам шляхты і ўперамежку са шляхтай, таму неабходна прыпыніцца на баярах.

**Баяры** адносіліся да агульнай катэгорыі "панцырныя баяры". Унутры гэтай катэгорыі панцырныя баяры дзяліліся на ўласна панцырных, путных і служак.

Панцырны баяр мусіў быць гатовым у любы момант выступіць на вайну, "для якой павінен быў мець добрага каня з сядлом, панцыр, прылбіцу, меч ці корд, дзіду, вопратку ў вызначаных колерах (уніформу), пояс і астрогі. Праўда крой вопраткі і колеры вытрымліваліся даволі прыблізна.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# НАТХНЁНЫ "КАРПІЛАЎКАЙ"

Сёлета ў недзяржаўным выдавецтве "Пэйта" мне ўдалося сваім коштам выдаць невялікую, на восемдзесят старонак, кніжачку – нарыс "Карпілаўка" – пра сядзібу Ядвігіна Ш. На выданне гэтае мае кніжачкі шчыра адгукнуўся наш перыядычны друк. Водгукі на яе былі змешчаны ў "Чырвонай змене", "Ліме", "Настаўніцкай газеце", "Кніжным свеце", у "Нашым слове", "Нашай ніве". Адгукнулася на маю кніжачку і "Народная Воля". Рэцэнзіяй – элігіяй Міколы Лавіцкага. "Пісьменнік выдаў кніжку, ахвяраваўшы пенсію за восем месяцаў".

Ва ўсіх водгуках, прынамсі ў "Настаўніцкай", была шчырая спроба зацікавіць чытача маёй кніжкаю, паспрыяць яе пашырэнню. Прыкладам, тая "Настаўніцкая газета" сваю публікацыю надрукавала пад рубрыкай "Для вас, настаўнікі, вучні". Але як нядзіўна ніхто з настаўнікаў на згаданую публікацыю не адгукнуўся, не запатрабаваў мае кніжачкі, першай такой пра Ядвігіна Ш., талент і інтэлект якога можна хіба параўнаць толькі з Чэхавым. Ну, але што зробіш…

Затое, як шчыра адгукнуліся на публікацыю чытачы "Народнай Волі". На другі ж дзень пасыпаліся званкі з жаданнем набыць маю "Карпілаўку". Набывалі па дзве-тры. Некаторыя разлічваліся большым коштам, чым я прасіў – авансам на наступную маю кнімжачку пра Уласава, колішняга рэдактара "Нашай Нівы". І што самае цікавае – сярод гэтых маіх чытачоў не было гуманітарыяў. Гэта былі пераважна людзі канкрэтных навук: вучоныя, медыкі, інжынеры. Пра кожнага з іх я калі-небудзь раскажу. Сёння мой расповед пра кіраўніка гаспадарчага аддзела паліграфічнага камбіната імя Якуба Коласа Валяр'яна Барташэвіча. Менавіта ён, тэхнар-гаспадарнік пажадаў набыць маю "Карпілаўку". Сустрэліся ля вядомага менскага салона "Шчасце", поблізу якога я жыву. Балазе было цёпла. Селі, разгаварыліся. Валяр'ян з большага расказаў пра сябе. Родам ён з Капыля. Прызнаўся, што паміж рознымі вытворчымі клопатамі яму яшчэ даюцца і вершы. От, прыкладам, як гэтыя: "Магутны Божа" паводле Н. Арсенневай, "Курапаты" ды іншыя. І тут жа ён прачытаў мне пару сваіх вершаў. Адзін з іх – "Лагойшчына" – быў цалкам сугучны з маёй кніжачкай: ён якраз пра тыя мясціны, дзе Карпілаўка, Жукаўка. Гэта былі вершы сталага майстра. Пытаюся, ці друкаваўся дзе? Так, друкаваўся – і паказваў мне самаробны альбом з друкаваных вершаў у перыядычным друку. Я прабегся па іх: не было сумнення – перада мною сталы паэт з сваім адметным словам, з сваёй тэмаю, з сваімі трывогамі і хваляваннямі, па-грамадзянску абвостранымі.

- А кніжачку маеш?
- Не.
- А чаму?..
- А каму яны патрэбныя гэтыя мае вершы…

- Так разважаць нельга, - кажу. – Ад дзяржаўнага выдавецтва не хутка дачакаешся кніжачкі. А вось, як я, ахвяравацца можна. Пераканай сям'ю, што праесці, растранжырыць можна ўсё, колькі ні заробіш. Нехта купляе машыну, нехта халадзільнік, нехта равэрак. А ты выдай кніжку. Кніжка – гэта, калі ўжо так нікому не патрэбна, то гэта хоць падсумаванне свайго "Я", свайго жыцця.

Выдасі – а там пабачым, патрэбна яна ці не. Тваімі вершамі могуць зацікавіцца нашы музыкі, кампазітары і, калі хоць на адзін верш будзе створана прыгожая песня, - гэта ўжо вялікае шчасце.

Нічога мне тады не сказаў мой новы знаёмы на мае прапановы. Набыў маю "Карпілаўку" – і пайшоў. А тыдні праз тры тэлефануе. Мне цікава, што ён скажа пра маю "Карпілаўку", а ён дастае з шафы зграбненькую кніжачку – самастужку з назваю "Вершы" і падае мне: "От вы пыталіся, ці маю я сваю кніжачку, дык вось яна!"

Для мяне гэта было дзіва і нечакана! Мінула пасля нашай размовы якія тры тыдні – і такі плён! Я вядома, імгненна пагартаў яе. Кніжачка ілюстравана каляровымі краявідамі, сугучнымі з творамі. Аўтар парупіўся, каб у ягонай кніжачцы было водгулле Малой радзімы – Капыля. Ён змясціў гістарычную старонку каляндара, пра Капыль з ягоным старажытным гербам і іншай гербоўнай атрыбутыкай. Вядома, я быў узрушаны кніжачкай. Адчуваў, што ў яе народзінах ёсць і якісь мой пачатак. Яшчэ раз зірнуў на вокладку. Але што гэта? На вокладцы значыцца зусім іншае імя аўтара. Майго навага знаёмага завуць Валяр'ян Барташэвіч. А тут чытаю: "В. Жук-Барысавіч". Маё неўдаменне здымае аўтар:

- Гэта мой такі псеўданім. З Жукаў мая бабуля… Яна была слынная песенніца, ведала шмат песняў. Яе нават наша радыё неяк запісвала. З Барысевічаў – дзядуля. Вось ўдзячны ўнук і пра іх згадаў, і пра іх не забыўся.

Усё гэта, безумоўна, вельмі цікава. А які ж наклад кніжачкі?

І тут мяне чакала новае ўзрушанне: усяго … шэсць кніжачак. Адна вось вам, другая мне, трэцяя бацькам, іншыя мо каму з літаратараў ахвярую…

Я хацеў пацікавіцца, чаму такі малы наклад? Хаця б сотня. Але Валер'ян перахапіў маю думку:

- Пакуль хопіць і гэтага! А там пабачым!..

Ну, што ж, як кажуць, аўтару відней. Адзінае, чаго я толькі пажадаў, каб асобнічак сваёй кніжачкі-самастужкі ён занёс калі-небудзь у нашу нацыянальную бібліятэку, каб не згубілася. Не ведаю ці прыслухаецца аўтар да мае прапановы, мае парады. Але ведайма – такая кніжачка на свеце ёсць. Няма ў яе, праўда, тытульнага аркуша. Не было ў яе, натуральна, ні рэдактара, ні карэктара. Але ёсць у яе слова за Беларусь, пра Беларусь.

Цікаўлюся, ці пісаў Валяр'ян вершы ў юнацтве? – Не, не пісаў. Нават не браўся. Нават, як чытач, асабліва паэзіяй не захапляўся. Але насталі дзевяностыя гады. У краіне перамены, новыя павевы. Незалежнасць. Жаданне далучыцца да гэтых павеваў і паклікала яго на пятым дзесятку да паэтычнага слова. Яму таксама захацелася выказаць свае думкі-пачуцці праз паэтычнае слова штосьці палепшыць у нашым жыцці. І слова яму сталася падуладнае. А як жа інакш! Ён жа з таго краю, дзе ў кожнай хаце на печы за комінкам паэт сядзіць ці сядзеў. З Капыльшчыны ж Зміцер Жылуновіч, Алесь Гурло, Анатоль Астрэйка, Кузьма Чорны, Адам Бабарэка, Алена Васілевіч, Алесь Махнач, Аляксей Кулакоўскі, Адамовіч ды шмат хто іншыя. У Валяр'яна ўсе гэтыя імёны выпісаныя на асобную картку. Ён углядаецца ў іх як у жыватворную студню. Друкаваўся Валяр'ян у "Нашай Ніве", "Народнай Волі", "Беларускай маладзёжнай". Першы Валяр'янаў верш надрукавала газета "Здравый смысл". Гэтым вершам былі ж "Курапаты". Можа гэта таму, Валяр'ян жыве поблізу гэтага пакутага курапацкага ляснога пагорка.

Як і для кожнай творчай асобы Радзіма, родная мова для Валяр'яна – бальзам жывых крыніц:




***РОДНАЕ СЛОВА***

***Кадушка, цэбар, дзежка, ночвы –***
***Забытых слоў ручай плыве,***
***А сёння беларус ахвоча***
***Анучу "трапкай" назаве.***
***Рыдлёўку кліча ён "лапатай",***
***А "скацярць" значыцца абрус.***
***"Дзярэўня" – вёсачка сем хатак.***
***"Саюз" – забытае хаўрус.***
***Нямала слоў сышло ў прочкі –***
***Зняmелай мовы ўспамін,***
***Калі ж настане дзень за ноччу***
***І вецер наш раскруціць млын.***

*Травень 2000 г.*

Валяр'ян – чалавек сціплы. Здаецца, ягоныя калегі-гаспадарнікі ды падначаленыя і не здагадваюцца, што іхні шэф "хварэе" на паэтычнае слова. Мо нават не ўсе разумеюць, навошта начальніку гаспадарчага аддзела марнаваць яшчэ час на слова, калі і так можна жыць. А гэта ж выдатна, нават сімвалічна, што загадчык гаспадарчага аддзела не толькі абслугоўвае слова, але і сам яшчэ творца гэтага слова.

Нарадзіўся Валяр'ян у 1948 годзе. Скончыў Менскі палітэхнічны інстытут. Хімік-тэхнолаг. Праз колькі гадоў у яго юбілей. Самы лепшы падарунак для яго была б, безумоўна, кніжачка ягонай паэзіі. Ён быў бы шчаслівы, калі б ягоныя калегі-гаспадарнікі якраз здагадаліся зрабіць для яго такі падарунак. А пакуль пішуцца от такія вершы, як гэты:

***АПЕНЬКІ***

***Сеяў я апенькі ў леціічы ля ганку,***
***Палівау старанна ўвечары і ўранку,***
***Пень стары трухлявы закапаў у глебу,***
***Каб спрыяў грыбніцы вырасці, як трэба.***
***Сыпаў угнаенні, попел і падкормку,***
***Нават раз на тыдзень я рабіў падкормку***
***Так прайшоў кастрычнік***
***ўжо й чакаць стаміўся –***
***Не растуць апенькі хоць распеража́ся.***
***Мабыць закапаў я пень залішне моцны***
***Не спляла грыбніца ў ім свае кросёнцы***

***Хутка снег закружыць над палямі першы***
***Не здабыў апенек – атрымаўся вершык.***

18.X.2001 г.

Скажыце, чым не песня?!

Сей жа, Валяр'ян і надалей і вершы, і апенькі! Плёну Табе!

*Ул. Содаль.*
*8.XI.2001 г.*

## В. Жук - Барысавіч

### МАГУТНЫ БОЖА
(Паводле Н. Арсенневай)

Магутны Божа, Уладар сусвету,
Вялізных сонцаў і сэрц малых.
Чаму забыў ты краіну гэту
І нас пакінуў у бядзе адных?
Можа таму, што згубіўшы сілы,
У штодзённай працы не маем плён,
А на Айчыне, з маленства мілай,
Ляжыць Чарнобыля злы праклён.
І стала горкай вада ў рэках,
На небе Зорка ўзышла – "палын",
Атрутны вецер гукае рэхам,
Не меле зерне замшэлы млын…
А мо таму, што ўтуліўшы плечы,
Даўно чужынца ўпусцілі ў дом,
Ужо і частаваць яго стала нечым,
Сябе ён лічыць гаспадаром…
Калі ж засеем сваю мы ніву,
Учынкаў мужных збярэм умалот,
Нарэшце стане тады шчаслівай
Краіна наша і наш народ.

*13 снежня 1998 г.*

### СЦЯГ ХРЫСТА

Хто ад сцяга Хрыста адвярнуўся,
Утаптаўшы святыню ў бруд,
Той на ўзбоччы жыцця апынуўся,
Не адчуўшы сумлення пакут.

Побач з намі віруе Эўропа,
Спора ладзячы свой дабрабыт,
Мы ж, як быццам чакаем патопу,
Покуль прыйдзе аднекуль найміт.

Ён па-свойму ўсё улагодзіць,
Дасць задарма і нафту, і газ,
Будзе новыя звычкі заводзіць,
Забярэ толькі памяць у нас.

Каб укленчыўшы перад іконай
Быў ніводзін не ў стане ўзгадаць,
Як да Бога маліць сваёй мовай,
Каб пачуў ён – і змог даравать.

*Верасень 1998 г.*

### "БЕЛЫ" ВЕРШ

Белыя на могілках ад дажду крыжы,
Белыя, як здані, буслы на мяжы,
Над дарогай з'езджанай белы пыл курыць,
Як заўжды на ростанях
Беларусь ляжыць.

Што князям літоўскім у спадчыну дана,
Тая, што "Ўсходнімі крэсамі" была,
Дзе для царскіх прыхвасняў
Быў сапраўдны рай,
Назву атрымаўшая, як "Заходні край".

Белы попел спаленых думак і надзей,
Белыя-бялюткія твары ў дзяцей,
Белы цень Чарнобыля над зямлёй бяжыць,
Як заўжды на ростанях
Беларусь ляжыць…

*Жнівень 1999 г.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 19. 11. 2001 г.
Наклад 3800 асобнікаў. Замова № 2542.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
*Кошт у розніцу:* 80 руб.